


Хлапечае сэрца да каня цягне... Фота М. Гайдука

№ 5 (1173) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 3.II.1980 г.

**Станіслаў Шушкевіч**

# СКАКУНОК

(КАЗКА)

Не сядзелася зайчыку Скакунку дома. Прасіў ён маму, каб пусціла яго на лёдзе пакоўзацца, на саначках пакатацца, на лыжах з горкі спусціцца. А маці сурова наказала, каб урокі вучыў:

— Настаўніца Шараліна Зайцаўна была ў мяне і гаварыла, што ў цябе нават двойка ёсць.

Скакунок доўга над кніжкаю сядзеў і заснуў. Прачнуўся ён раніцою, глянуў на гадзіннік, у школу пара. Цопам-лопам паснедаў, сабраў кніжкі і сшыткі ў партфель і выбег на вуліцу. А на вуліцы свежы сняжок выпаў, лёд на рэчцы зацерушыў. Шкада Скакунку, што не будзе добрай коўзанкі. Дзе ж ён новыя канькі апрабуе?

Бяжыць Скакунок лясною сцяжынкаю, з дзятламі вітаецца, з вавёркамі жартуе, снегіру пагразіў лапкай, каб ён не прарочыў марозных дзён з мяцеліцамі і завірухамі.

Толькі зайчык выбег на ўзгорак, а там Воўк. Што рабіць? Ад яго цяпер не ўцячы. Забілася сэрца ў Скакунка.

Кінуўся ён Ваўку пад ногі і закрычаў:

— Уцякай, Воўча, паляўнічыя бягуць, яны цябе не пашкадуюць.

Воўк драпануў у гушчар, а Скакунок шмыгнуў у школу.

Спацеў малы, запыхаўся, ад страху вочы вытарашчыў.

— Што з табою, Скакунок? — пытае настаўніца.

Скакунок глянуў ёй у вочы і заплакаў:

— Калі я раскажу, дык вы мяне пакараеце. Вы ж учора нас вучылі гаварыць праўду, а я сёння Ваўка ашукаў, змяніў яму, што паляўнічыя гоняцца.

І Скакунок расказаў пра свае прыгоды ў дарозе.

Шараліна Зайцаўна пагладзіла Скакунка па галоўцы, суцешыла і пахваліла перад усімі яго аднакласнікамі:

— Скакунок паказаў сябе кемлівым, а не ашуканцам, — сказала яна. — Воўк хацеў разарваць Скакунка, а ваш сябар і сваё жыццё выратаваў і нават напалохаў ляснога разбойніка.

Зазвінеў званок. Усе вучні-зайчаняткі селі за парты. Яны чыталі, пісалі, рашалі задачкі. На апошнім уроку Шараліна Зайцаўна спытала:

— А ці вывучылі вы на памяць верш, які я задавала вам учора?



Скакунок першы падняў лапку.
— Верш называецца „Свавольнікі.“
Спакойна і выразна зайчык пачаў расказваць:

Два Мядзведзі Мішкі
Падкідалі шышкі.
Як скакалі праз кусты,
Дык абшарпалі хвасты.
Плачуць, азіраюцца,
Будзе мама лаяцца.

— Падай свой дзённік, — сказала настаўніца і паставіла Скакунку пяцёрку.
Радасны і вясёлы вярнуўся зайчык дадому. Ён адразу выняў з партфеля дзённік, падняў яго высока над галавою і падышоў да мамы.
— Пэўна, зноў двойка? —спытала маці.
— Крышку больш, — усміхнуўся Скакунок.
Маці накарміла сына смачным абедам і адпусціла аж на гадзіну пакатацца на лыжах.
Калі Скакунок вярнуўся дадому, дык пачуў сарочы голас з радыёпрыёмніка:
*Апошнія лясныя паведамленні. Сёння стары ікласты Воўк спрабаваў напасці на безабароннага вучня Скакунка. Зайчыку ўдалося ашукаць злога разбойніка і ўцячы. А праз пэўны час Воўк напаў на Аленя. Алень пабег у імшарышча, дзе сядзелі ў засадзе паляўнічыя. Яны забілі злога Ваўка.*
Зайчык падскочыў ад радасці. А яго мама ледзь не праслязілася і спытала, чаму Скакунок не расказаў ёй пра сённяшняе здарэнне.
Зайчык абняў маму і сказаў:
— Я не хацеў цябе засмучаць. Я ведаю, што ў цябе добрае сэрца, і хачу, каб яно ніколі не балела, не трывожылася за мяне.

# ЧЫТАЕМ

## МІШКА

НУ, ЧАГО Ж ТЫ, МІШКА,
АД НАС УЦЯКАЕШ?
НА ЗІМУ Ў БЯРЛОЗЕ
ПАСЦЕЛЬ ПАСЦІЛАЕШ?
МЫ НА САНКАХ РАЗАМ
ПАІМЧЫМСЯ З ГОРКІ,
ПОТЫМ ЗЛЕПІМ БАБУ —
ЗАМЕСТ НОСА — МОРКВА!
ПАЗЯХНУЎ НАШ МІШКА,
СОННА ПАЦЯГНУЎСЯ
І ЗАПЛЮШЧЫЎ ВОЧКІ:
„Я ВЯСНОЙ ВЯРНУСЯ“.

**В. Лукша**

**І. Чарнецкі**

## ЦЁПЛЫ СМЕХ

ЛЕСАМ, ПОЛЕМ ЗАЙКА БЕГ,
НЁС ЁН СМЕХУ ПОЎНЫ МЕХ.

СПАТЫКНУЎСЯ — І НА СНЕГ
ВЫСЫПАЎСЯ ЦЁПЛЫ СМЕХ.

І З ПАГОРКАЎ ДА РАКІ
ПАЛІЛІСЯ РУЧАЙКІ.

*З украінскай мовы пераклаў*
**В. Жуковіч**

## ГОРКА

ЦЭЛЫ ДЗЕНЬ РАБІЛІ ГОРКУ
ЯНКА, СЛАЎКА І РЫГОРКА.
І НЕ МОГУЦЬ З ЁЙ РАССТАЦЦА,
РАДЫ Б НАНАЧ ТУТ
ЗАСТАЦЦА.

**П. Сушко**

Ус. Краўчанка

# САМАЕ ГАЛОЎНАЕ

Прыемна сонечным марозным дзяньком пабегаць на лыжах па ўзгорках, пачытаць апавяданні, „напісаныя“ на снезе ляснымі жыхарамі. Хоць жыхары гэтыя і не вучацца ў школах, не вывучаюць граматыкі, але многія з іх, далібог, пішуць свае лясныя гісторыі больш зразумела і выразна, чымся некаторыя нядбайныя вучні.

Але Паўліку сёння было не да лыжаў і не да лясных гісторый. Ён вяртаўся са школы сумны, агорнуты невясёлымі думкамі. Праз усю зімовую прыгажосць зваліліся на Паўліка такія непрыемнасці, што хоць вазьмі ды плач. Выпаў першы снег, іскрысты, прывабны, — ну як тут было ўтрымацца! Пракаціўся пасля ўрокаў на лыжах да гары Сунічнай, прабег кіламетраў пяць па палях і пералесках. Захапіўся лыжамі, не вывучыў урокаў адзін дзень, другі, трэці і вось — на табе, атрымлівай поўны вучнёўскі накаўт: двойка па арыфметыцы...

Паўлік ішоў павольна, бо дома яго чакала сустрэча не з радасных. Сёння павінен вярнуцца з горада яго старэйшы брат Міхась, механік, якога ўжо не было дома дзён тры. А Міхась пасля смерці бацькі лічыў сваім абавязкам сачыць за вучобай і паводзінамі малодшага брата.

— Вось ты, Паўлушка, добра бегаеш на лыжах, — звычайна гаварыў Міхась. — Добрая гэта справа! Шчыра скажу — пахвальная справа! Можаш ты самастойна пабудаваць шпакоўню, дагледзець трусоў, пасадзіць дрэва — за ўсё гэта ты, проста табе скажу, малайчына! І ўсё ж памятай і зарубі сабе на сваім кірпатым носе: самае галоўнае для вучня — выдатна вучыцца! Зразумеў?

Брата Міхася Паўлік застаў на двары. Ён стаяў каля паўтаратонкі, якая паціху вурчала „на малым газку“, і аддаваў нейкія распараджэнні шаферу. Паўлік непрыкметна прашмыгнуў у хату. Неўзабаве паўтаратонка ад'ехала, і брат таксама зайшоў у хату. Быў ён стомлены, непаголены, відаць, нямала меў клопатаў за гэтыя дні. Распрануўся. Маці падала яму таз з вадой, і Міхась пачаў старанна, як ён заўсёды гэта рабіў, умывацца.

— Ну, а ты што маўчыш, не дакладваеш, як справы? — звярнуўся Міхась да Паўліка, выціраючыся ручніком і расчэсваючы перад люстэркам валасы.

— Ды так сабе, — неахвотна адказаў Паўлік і пачаў пальцам выпісваць узоры на запацелай шыбе.

— На лыжах бегаў?

— Ну бегаў...

— Трусоў дагледаў?

— Дагледаў...

— А маці дапамагаў?

— У-гу, — сцвярджальна прагугніў Паўлік.

Міхась павярнуўся ад люстэрка і ўважліва паглядзеў на брата.

— Ну, а як наконт самага галоўнага?

Паўлік увабраў у плечы галаву і маўчаў, не кратаючыся з месца.

— Усё зразумела, — сказаў Міхась. — Адхапіў двойку. Па чым?

— Па арыфметыцы, — яшчэ ніжэй апусціўшы галаву, ціха адказаў Паўлік.

Міхась пастаяў з хвіліну неру-

хома, пaглядаючы на сагнутыя плечы Паўліка, падумаў. Відаць, зразумеўшы, што тварылася зараз на душы ў хлопца, ён падышоў да брата, мякка, па-сяброўску, абняў яго за плечы. Паўлік паслухмяна прытуліўся да Міхася.

— Браток ты мой, — шчыра, пранікнёна прамовіў Міхась. — Ты кінь хвалявацца. Двойка — рэч паправімая. Чалавек можа дабіцца вельмі многага, варта яму толькі моцна пажадаць... Ну, паглядзі мне ў вочы, Паўлік, паглядзі.

Паўлік падняў галаву і глянуў брату проста ў вочы.

— Ну вось, я так і ведаў, што ты ўсё зразумееш і згодзішся са мною, — нібы прачытаўшы ў позірку хлапчука раскаянне і сорам, радасна сказаў Міхась. — А цяпер давай перш-наперш, дружа, паабедаем з табой...

Паўлік кіўнуў у знак згоды галавой і падумаў: „Паабедаю, вазьму кніжкі і пайду да Андрэйкі. Папрашу, каб паказаў мне, як рашаць задачкі.“



Але Паўліку не пашанцавала: Андрэйку ён дома не застаў, і Андрэйкава маці нават не ведала, куды ён падзеўся, — ці пабег на санках з гары катацца, ці з Тузікам ў крушыннік зайцоў высочваць.

Паўлік выйшаў на вуліцу і спыніўся ля варот у роздуме.

„А што, калі я паспрабую рашыць іх сам?“ — нечакана падумаў Паўлік і раптам увесь ажывіўся. Ён ірвануўся ад Андрэйкавых варот дамоў з такою сілаю, што можна было падумаць, што ён браў старт на стометровую дыстанцыю. Прыбег, павесіў на вешалку свой кажушок і адразу ж — за стол.

Паўлік узяў сшытак, разгарнуў задачнік па арыфметыцы. Задача аказалася не з лёгкіх. Наморшчыўшы лоб, ён пачаў напружана думаць...

Не так страшны чорт, як яго малююць. Варта было яму добра падумаць — і ён адолеў гэтую прамудрасць. Смела і ўпэўнена Паўлік узяўся за наступную задачу...

Выканаўшы з такой жа старанасцю ўсе астатнія хатнія заданні, Паўлік склаў кнігі ў ранец, выйшаў у другі пакой, дзе за сталом над кнігамі сядзеў Міхась.

— Ну, што скажаш, дружа? — спытаў Міхась, не паварочваючыся. — Можа, задачка трапілася цяжкая, дапамагчы?..

— Не, — цвёрда прамовіў Паўлік. — Прышоў сказаць, што ўсе задачы рашыў самастойна і ўсе ўрокі назаўтра падрыхтаваў.

Міхась падняўся з-за стала і, падышоўшы да брата, цёпла прыгарнуў яго да сябе:

— Самае галоўнае, Паўлуша, самае галоўнае... **(У скарачэнні)**




## ЛАЗЕР СУПРАЦЬ РАДЫЯЦЫІ

Згубную дозу радыёактыўнага выпраменьвання атрымалі ў эксперыменце паддоследныя жывёліны і... не загінулі. Прычым, не было прычыны нават ісці на крайнюю меру — рабіць перасадку касцявога мозга. Вылечыў іх прамень лазера.

Вучоныя лічаць, што лазер можа стаць надзейнай „хуткай дапамогай“ для выпадкова трапіўшых у бяду работнікаў атамных электрастанцый, даследчыкаў, якія працуюць на рэактарах, касманаўтаў у працяглых палетках.

## ПАРТУГАЛЬСКАЯ МОВА

У Партугаліі жыве 9 мільёнаў жыхароў, але па-партугальску гаворыць на свеце больш 140 мільёнаў людзей. Галоўным чынам партугальская мова з'яўляецца дзяржаўнай у даўнейшых партугальскіх калоніях у Паўднёвай Амерыцы, Афрыцы, Азіі. Дзяржаўнай мовай партугальская мова з'яўляецца па-сённяшні дзень у Бразіліі, Гвінеі-Бісау, Мазамбіку, Анголе, Макау, Ціморы, на Астравах Зялёнага Мыса і іншых.

## ЛЕКАР ПА РАДЫЁ

У Рыме знаходзіцца міжнародная радыё-лекарская хуткая дапамога. Адсюль ідуць парады на караблі ўсіх краін, калі захварэе марак, а свайго лекара на караблі няма. На працягу некалькіх мінут лекары розных спецыяльнасцей даюць па радыё парады, як паступіць з хворым. Калі хвароба сур'ёзная, хуткая дапамога стараецца, каб хворага забраў карабель, які знаходзіцца недалёка і мае ў сябе лекара.

## УСЁ ПАВЯЛІЧВАЕЦЦА

Галандыя з'яўляецца адзінай на свеце краінай, паверхня якога ўсё павялічваецца. Галандцы ўжо ад семнаццатага стагоддзя адваёўваюць ад мора кавалкі зямлі, адгароджваюць яе і адвадняюць. На адабраных у мора землях арганізуюцца новыя гаспадаркі, будуюцца новыя дамы адпачынку, нават прамысловыя аб'екты.

## НАЙКАРАЦЕЙШАЯ Ў СВЕЦЕ РАКА

Найкарацейшай у свеце ракой з'яўляецца савецкая рака Рэпруга. Яна выцякае каля мястэчка Гагры на Прадкаўказзі і, праплыўшы каля дваццаці метраў, упадае ў Чорнае мора.

## СТАТЫСТЫКА

Статыстыка Арганізацыі Аб'яднаных Нацый падае, што 1/3 насельніцтва свету не ўмее чытаць і пісаць. Першае месца па непісьменнасці займае Афрыка — 73 працэнты ўсіх жыхароў, Азія — 46 працэнтаў і абедзве Амерыкі — 18 працэнтаў. У Еўропе 3,5 працэнта людзей не ўмее чытаць і пісаць.

# Апошні месяц зімы

*То разбяжыцца,*
*То пухам засцелецца,*
*Гойкае, кружыць,*
*Спявае мяцеліца.*
**Пятрусь Броўка**

Люты — гэта месяц снежных заносаў, мяцеліц. Згінаюцца пад цяжарам снегу елкі ды сосны. Для ўсіх звяроў і птушак люты з'яўляецца самым ліхім месяцам у годзе. Зубры, ласі, алені і казулі капытамі выкопваюць сабе з-пад снегу леташнюю траву, мох і карэнні. Яны аб'ядаюць тонкія галінкі кустоў і кару маладых дрэў. Дзікі ў пошуках корму ходзяць па лесе чарадой, пракопваючы ў снезе цэлыя траншэі. Не турбуюць зімою харчовыя стравы барсукоў і вожыкаў. Яны спяць у сваіх высланых сухім лесцем, травой і мохам норах і ямках, засыпаных снегам. Усю доўгую зімовую ноч шукае сабе корм заяц. У полі ён нічога не можа знайсці і таму перабіраецца бліжэй да чалавечага жылля.

Але ў прыродзе адбываюцца ўжо змены, якія сведчаць аб тым, што неўзабаве прыйдзе чаканая вясна, што панаванню зімы з марозамі, вятрамі і завеямі надыходзіць канец. І лясныя жыхары адчуваюць гэтыя змены.

Прыводзім народную прымаўку: „Калі ў лютым маразы востра трымаюць, зіме блізкі канец абяцаюць“.

**(яц)**
**Фота: архіў**



# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* ✲ *

У замку-музеі Янка нечакана зачапіў вазу. Тая ўпала і разбілася.

— Ой! — войкнула назіральніца. — Гэта ж вельмі старая ваза!

— Ну, дык яшчэ добра, — уздыхнуў з аблягчэннем Янка. — А я баяўся, што яна новая.

* ✲ *

— Мама, мама, можна, я пагляджу на зацьменне сонца? Усе хлопцы пабеглі глядзець...

— Ідзі, толькі ні ў якім разе не падыходзь занадта блізка.

* ✲ *

Настаўніца вучню:

— Назаві, калі ласка, чатыры галоўныя элементы прыроды.

— Агонь, паветра, зямля і...

— Ну, успомні, чым ты рукі мыеш?

— Мыла!

* ✲ *

Настаўніца вучню:

— Якія матэрыялы праводзяць электрычнасць?

Вучань:

— Слупы.

* ✲ *

Настаўніца вучню:

— Чаму ў студзені халадней, чым у ліпені?

Вучань:

— Бо ў студзені сонца падае на зямлю пад меншым вуглом, чым у ліпені.

* * *

Настаўнік: — Назаві мне прадмет, які мае форму шара.

Вучань: — Галава.

* ✲ *

— Што такое пераменны ток? — пытае настаўнік.

— Гэта той, што спачатку нічога-нічога, а потым як трэсне!

* ✲ *

Мама наліла Марыльцы шклянку малака-сырадою. Марылька паспытала ды кажа:

— У нашай Рагулі ў жываце, напэўна, печка ёсць, бо малако цёплае.

# Адгаданка





**На малюнку бачыце шахматную дошку, але парэзаную на кавалкі, на васемнаццаць частак. Складзіце з гэтых кавалачкаў такую шахматную дошку, як бачыце на другім малюнку.**

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**